БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

25 студзеня 1994 г.
Аўторак
№ 9 (13725)
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:



*Малюе Віктар ДУБОВІК*







**Краіну — з малатка.**

*Фота Сяргея БРУШКО.*

## Кур'ер "ЧЗ"

### АЭС "без трэшчыны" не можа

***Як паведамлялася ўжо, 18 студзеня з-за ўзнікшай цечы быў спынены першы блок Ігналінскай АЭС.***

Паводле інфармацыі, атрыманай у дырэктара станцыі Віктара Шавалдзіна, прычынай цечы на адным з трубаправодаў сістэмы аварыйнага расхалоджвання рэактара была трэшчына ў зварным шве трубаправода дыяметрам 100 міліметраў. Да такога вываду прыйшлі спецыялісты АЭС сумесна з прадстаўнікамі Дзяржінспекцыі па бяспецы ў атамнай энергетыцы, якія абследавалі пасля расхалоджвання першы рэактар.

Віктар Шавалдзін таксама паведаміў, што на ліквідацыю няспраўнасці і правядзенне неабходных выпрабаванняў спатрэбіцца 4-5 дзён. Арыенціровачная дата ўключэння энергаблока — 26 студзеня.

Радыяцыйная абстаноўка на станцыі не адрозніваецца ад звычайнай і складае 5-7 працэнтаў ад дапушчальных значэнняў.

БЕЛІНФАРМ.

### Хто да радзімы ласку мае...

***Будучым летам, у ліпені, берасцейцы мяркуюць урачыста і з размахам адсвяткаваць 975-я ўгодкі роднага горада.***

Берасце — адзін з найстаражытнейшых гарадоў Беларусі, што знаходзіцца на беларуска-польска-ўкраінскім памежжы, таму арганізатары свята спадзяюцца ператварыць яго ў шматнацыянальны фэст славянскіх культур.

Аб размаху плануемай імпрэзы сведчыць і тое, што нядаўна ў шэрагу беларускіх газет у замежжы (у Канадзе, Вялікабрытаніі, ЗША і г.д.) з'явіўся так званы "Зварот да берасцейцаў у свеце", дзе, у прыватнасці, гаворыцца:"Мы чакаем усіх, хто да роднай зямлі ласку мае, хто нарадзіўся, жыў або чые продкі паходзяць з Берасця і гарадоў ды вёсак Заходняга Палесся".

Адзін з ініцыятараў свята — грамадскае аб'яднанне "Стары горад" — ужо сёння збірае водгукі і прапановы аб ягоным правядзенні на адрас: 224000, Беларусь, г.Берасце, паштамт, а/с 40, "Стары горад".

Цікава, што ідэя святкавання 975-годдзя Берасця з разуменнем сустрэта і афіцыйнымі структурамі. Напрыклад, выдаваны ў Канадзе і ЗША часопіс "Зважай" змясціў рэкламную абвестку, што "калектыўныя заяўкі на ўдзел у імпрэзе амерыканскія беларусы могуць накіроўваць на адрас пасольства Рэспублікі Беларусь у ЗША: 1619, New Hampshire Avenue, N.W.Washington, D.C. 20009, Embassy of Belarus".

Відаць, будзе сапраўднае свята на нашай зямлі.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА, ЧЗ-інфарм.

### Стане яшчэ лепей?

***У Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя галоўных "транспартнікаў" Беларусі.***

Міністр транспарту Сцяпан Шкапіч, генеральны дырэктар "Белавія" Алег Рыжыкаў і іншыя ў адзін голас запэўнівалі прысутных журналістаў, што ў прынцыпе ў нас усё добра, трэба толькі пачакаць некалькі год — стане яшчэ лепей.

Намеснік кіраўніка Беларускай чыгункі Уладзімір Барысюк казаў, што колькасць пасажыраў на паяздах узрасла на 20 працэнтаў. Дырэктар "Белавія" на пытанне аб лёсе аэрапорта "Мінск-2" адказаў, што заходні капітал зацікаўлены ў нашай інфраструктуры, таму інвестары ахвотна ўкладаюць грошы ў авіяпрамысловасць. Зараз на Беларусі існуюць адна дзяржаўная і дзве незалежныя авіякампаніі. Але канкурэнтаў у "Белавія" значна больш. Каб вырашыць праблемы з паркам самалётаў, якія маральна састарэў, "Белавія" плануе арандаваць "Боінгі". Нягледзячы на зніжэнне аб'ёму перавозак на 50 працэнтаў, яна захавала асноўныя паветраныя лініі і ажыццяўляе праграмы па супрацоўніцтву з Егіптам, Суданам і Венгрыяй.

Кіраўнік ВА "Мінскпасажыраўтатранс" Васіль Чалоўскі заявіў, што зараз ільготамі на праезд у аўтатранспарце карыстаецца 5,9 мільёна чалавек — больш чым палову ўсяго насельніцтва рэспублікі. А адна паездка ў грамадскім транспарце рэальна каштуе тысячу рублёў. Зараз колькасць перавозак аўтатранспартам у Беларусі зменшылася на 20 працэнтаў. Для абнаўлення аўтапарку патрабуецца 4—5 гадоў, за гэты час плануецца пабудаваць у рэспубліцы 3 заводы, па вытворчасці аўтобусаў.

Транспартнікі падкрэслілі, што ў сваёй далейшай дзейнасці бяруць накірунак на інтэграцыю авія- і чыгуначных перавозак з Расіяй.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### "Мы паедзем, паімчымся?.."

***Яшчэ некалькі месяцаў таму гэты працоўны калектыў быў сярод лепшых не толькі ў сваёй сістэме аўтамабільнага транспарту, а і наогул у рэспубліцы.***

Шэсць гадоў аўтатранспартнікі парка № 2 беларускай сталіцы працавалі без адзінага здарэння. Яны перавозілі сотні тысяч пасажыраў, чым, вядома ж, заслугоўвалі ад удзячных людзей шчырыя падзякі і прызнанні.

На жаль, сёння ў працаўнікоў аўтапарка № 2 Мінска, як і ў большасці з нас, процьма нявырашаных пытанняў і праблем. І самая галоўная з праблем — абвастрэнне ўзаемаадносін з пасажырамі. Прычым, не па віне аўтатранспартнікаў. У выніку падаражання паліва і энерганосьбітаў у некалькі дзесяткаў разоў павялічыліся цэны на білеты. Горш таго, пачалі закрывацца маршруты руху аўтобусаў. Летась, напрыклад, у 60 населеных пунктаў Беларусі, якія раней абслугоўваў парк № 2, перасталі хадзіць аўтобусы. Калі не будуць прыняты тэрміновыя меры, не выключана, што ліквідуюцца ў бліжэйшы час яшчэ каля адной трэці рэйсаў...

Алесь МЯСНІКОЎ.

### Беларускія рок-гурты ствараюць свой цэнтр

***У канцы мінулага тыдня рэдакцыя атрымала пісьмо ад пяці найбольш вядомых беларускіх гуртоў "Крама", "Мроя", "Новае неба", "Палац", "Уліс".***

Прадстаўнікі беларускай рок-музыкі звяртаюцца да Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевіча, Старшыні Савета Міністраў В.Кебіча, старшыні Мінгарвыканкама А.Герасіменкі, незалежных прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь.

Паводле іх слоў, можа здацца неактуальным узгадваць пра магчымую смерць духу, калі ў краіне склалася цяжкае эканамічнае становішча.

Беларускія рок-музыканты занепакоены тым, што рэспубліканскіх слухачоў і гледачоў выхоўваюць не заўсёды высакаякаснай музыкай, якая амаль што цэлымі днямі гучыць па радыё і тэлебачанні. Кормяць дух той музыкай, якую нашы мясцовыя "зоркі" лепяць, страціўшы сувязі з нацыянальнай культурай. І гэтая эрзац-культура, трэба дадаць, мае добрую фінансавую падтрымку як дзяржаўных устаноў, так і камерцыйных структур, якія выдатна разумеюць , што зарабіць грошы і зрабіць сабе рэкламу значна прасцей, калі штучна падтрымліваць нізкія густы масавага слухача. І такі стан, гаворыцца ў звароце, нельга лічыць натуральным у незалежнай дзяржаве, бо музыка, у тым ліку і рок-музыка, — значная частка нацыянальнай культуры, якая ў цывілізаваным грамадстве карыстаецца падтрымкай дзяржавы і з'яўляецца яе гонарам. Тым больш, што беларуская рок-музыка, якая нясе ў асяродак сваіх слухачоў адраджэнскую ідэю, клапоціцца аб захаванні духоўнасці і менталітэту нацыі, з'яўляючыся густоўнай, прафесійнай, знаходзіцца ў занядбалым стане.

Менавіта таму гурты "Крама", "Мроя", "Новае неба", "Палац", "Уліс" вырашылі стварыць незалежную структуру — Цэнтр беларускага рок-н-рола — і вельмі спадзяюцца на ўвагу і падтрымку дзяржаўных улад і камерцыйных структур.

### Курсы валют на 24 студзеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5800(6300) | 6100 | – | (3580) |
| "Белбізнесбанк" | 6000 | 6400 | 3450 | 3650 |
| "Прыор" | 5950 | 6200 | 3400 | 3550 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

## РЭПЛІКА

### Стала холадна Максіму ў Яраслаўлі

***Спачатку здзіўленне, а потым шчырае абурэнне выклікала ў работнікаў музея Максіма Багдановіча ў Мінску пісьмо ад іх калег з Яраслаўля. Кіраўніцтва Дома-музея вядомага беларускага паэта, што стаў філіялам Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея-запаведніка М.А.Някрасава ("Карабіха"), просіць згоды на дэмантаж экспазіцый і абсталявання з прычыны размарозкі ацяпляльнай сістэмы.***

Дом у цэнтры Яраслаўля па вуліцы Чайкоўскага (былой Любімскай), які Багдановіч займаў з канца 1912-га да сярэдзіны 1914-га, сваё другое жыццё атрымаў толькі год назад. Тады, да 101-й гадавіны з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры, паміж Міністэрствам культуры нашай рэспублікі, адміністрацыяй Яраслаўскай вобласці, музеямі Багдановіча ў Мінску і Някрасава ў Карабісе быў заключаны дагавор на супрацоўніцтва тэрмінам на сем гадоў. А да гэтага мясцовыя ўлады пераносілі і рэстаўрыравалі будынак, які ледзь не пайшоў пад знос, а беларускі бок займаўся стварэннем экспазіцыі. Міністэрства культуры Беларусі фінансавала распрацоўку тэматычнага плана, выраб абсталявання і сам мантаж экспазіцыі, канцэпцыю якой распрацаваў і ўласнымі рукамі выканаў цудоўны беларускі мастак Генадзь Чысты. Мінскі музей Багдановіча перадаў у Яраслаўль каштоўныя, у тым ліку і арыгінальныя экспанаты, таму што паэт пражыў у гэтых мясцінах цэлыя шэсць гадоў свайго кароткага жыцця.

Урачыстае адкрыццё Дома Багдановіча на расійскай зямлі, у якім ён пераажыў радасць выхаду першага зборніка "Вянок", адбылося ў снежні 92-га з вялікай помпай. Рэпартаж пра гэту падзею здымала тэлебачанне "Астанкіна", аб ім было паведамлена па каналах ІТАР-ТАСС.

Але нават гадавіну экспазіцыі "Беларускі паэт з берагоў Волгі" святкаваць не прыйшлося. Кіраўніцтва Яраслаўскага філіяла паведамляе ў сваім пісьме, што цяпер не можа гарантаваць зберажэнне экспазіцыі. Дык што ж, вяртаць яе дадому, у Беларусь? А як жа тады адзіная культурная прастора, пра якую так любіць гаварыць інтэлігенцыя па абодва бакі расійска-беларускай граніцы?

БЕЛІНФАРМ.

ПАДЗЕІ ТЫДНЯ

# Там, за зачыненымі дзвярыма, трашчалі чубы. А нам што рабіць?

□ Андрэй ВАСІЛЕВІЧ, "ЧЗ"

***Вельмі цяжкім атрымаўся мінулы тыдзень. Мяркуйце самі: калі такое было на Беларусі ў суверэнную пару (пра бээсэсэраўскія часы гаварыць няма чаго!), каб асобныя дэпутаты ўсур'ёз дамагаліся адстаўкі Старшыні Вярхоўнага Савета, прэм'ер-міністра, генеральнага пракурора, міністра ўнутраных спраў і старшыні КДБ? (Звышмагутная кучка — нічога не скажаш!).***

Менавіта на мінулым тыдні зноў было абвешчана, што ля Дома ўрада з'явілася вайсковае падраздзяленне. Паколькі наша грамадства напалохана крывавымі маскоўскімі падзеямі, то людзі ў шынелях і са зброяй выклікаюць негатыўныя аналогіі.

Але агляд падзей больш лагічна пачаць з панядзелка. У той дзень, напярэдадні адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета, адбылося пасяджэнне Канстытуцыйнай камісіі. На ім выступіў генеральны пракурор Васіль Шаладонаў, праўда, у якасці кіраўніка пагаджальнай групы.

Як вядома, сесія не раз імкнулася дабіцца згоды ў прыняцці новай Канстытуцыі і неаднойчы пераконвалася, што згода — не больш чым светлая мара.

Закінуць праект на антрэсолі? Немагчыма. Напісаць новы? Навошта, калі і той, што ёсць, адкрыты для самых розных папраўак.

Стварылі пагаджальную камісію, маючы на ўвазе, што за адным вузкім сталом бэнээфаўцы, камуністы, цэнтрысты і проста дэпутаты, якія працуюць самі па сабе, вынайдуць уратавальны рэцэпт, нейкую формулу, якая спадабаецца ўсім.

Рэкамендацыі, з якімі Васіль Шаладонаў азнаёміў Канстытуцыйную камісію, падаліся спрошчанымі: лічыць неабходным увядзенне прэзідэнцкай пасады і арганізацыйнымі намаганнямі сабраць на сесію як мага больш дэпутатаў (праблема кворуму, дарэчы, — адна з невылечных хібаў беларускага парламента).

Стала ясна, што пагаджальная камісія пайшла па спрошчанай дарожцы (больш таго, пасля выявілася, што і самых пагаднільнікаў поўнасцю В.Шаладонаў сабраць не мог).

Члены Канстытуцыйнай камісіі Віктар Ганчар, Дзмітрый Булахаў падкрэслівалі, што распрацоўка зместу Асноўнага Закона ўжо не хвалюе. Існуюць адладжаныя з усіх бакоў фармулёўкі ў розных варыянтах. Велічэзным валуном на шляху паўстала адсутнасць палітычнай згоды. Адным хочацца мець вельмі моцнага прэзідэнта, другія бачаць у гэтым прэзідэнцтве калыску для дыктатарства.

Што рабіць? Пагаджальная камісія ў былым складзе фактычна склала ад бяссілля рукі...

Станіслаў Шушкевіч прапануе фарсіраваць выбары прэзідэнта (а быў жа самым шчырым прыхільнікам парламенцкай рэспублікі!) у абход новай Канстытуцыі, зрабіўшы папраўкі ў дзеючае заканадаўства. "Гэта абсурд, — запярэчыў яму Аляксандр Лукашэнка.— Неабходна тэрмінова ліквідаваць у перамовах нязгоду паміж палітычнымі плынямі і партыямі і дамагчыся кампрамісу".

Зноў жа ўзнікае пытанне, якім чынам? Прапануецца адкласці ўсе справы Станіславу Шушкевічу і шукаць паразумення не фармальна, а ў гутарках ледзь не з кожным дэпутатам альбо знайсці каго-небудзь на ролю палітычнага чаўнака — няхай снуе паміж левымі і правымі.

Пагаварылі члены камісіі і разышліся ў спадзяванні на беларускае "як-небудзь".

Сесія ж паказала, што тупік у адносінах да прэзідэнцтва яшчэ больш цёмны, чым уяўлялася. А менавіта гэта гучнае пытанне і з'яўляецца тым каменем, аб які разбіваюцца надзеі.

І хто ведае, чым бы займаліся дэпутаты, прыняўшы Статут СНД з агаворкамі, патаптаўшыся вакол праекта Канстытуцыі, калі б не падкінуў ім лёс цікавую цацку — справу аб арышце літоўскіх камуністаў у Мінску. Вельмі падабаюцца нашым дэпутатам такія вось грымотна траскучыя пытанні. Па-першае, просяць журналістаў пакінуць залу, па-другое, просяць саноўных чыноўнікаў даць тлумачэнне з трыбуны, па-трэцяе, узнікае рэальная магчымасць у некага адабраць пасаду, а некаму даць.

У самім арышце літоўскіх камуністаў Буракявічуса і Ярмалавічуса прысутнічае як трагедыя, так і фарс. Трагедыя, бо ў любых умовах пагоні, арышты, перасяленне ў камеру з кратамі — гэта нядобрае. А фарс у тым, як мінскія камуністы перакідвалі аднадумцаў з Літвы з адной кватэры ў другую, гулялі ў канспірацыю — ці не прасцей было належным чынам прасіць улады аб палітычным прыстанішчы? Магчыма, перашкаджала старое ўяўленне аб адсутнасці межаў на прасцягах аплаканага Савецкага Саюза...

Парадокс яшчэ ў адным: пасля перамогі Бразаўскаса нашы левыя радаваліся: камуністы сябе пакажуць. І вось адны літоўскія быццам бы камуністы ад Бразаўскаса ловяць другіх літоўскіх камуністаў ад КПСС, а мінскія прыхільнікі светлай будучыні ініцыіруюць парламенцкі крызіс з гэтай нагоды.

Арышт Буракявічуса і Ярмалавічуса стаў козырам для тых, хто хоча паказаць "кузькіну маці" міністру ўнутраных спраў У.Ягораву і старшыні КДБ Э.Шыркоўскаму. Як жа — парушылі закон!

Але парламенцкае слуханне за зачыненымі дзвярыма паказала, што "пачапляць усіх сабак" толькі на міністра і старшыню не атрымаецца. Бо беззаконне, калі яно і мела месца, благаславіў генеральны пракурор В.Шаладонаў. Няхай сабе і па тэлефоне, гэта даволі звычайная форма савецкай юрыдычнай практыкі. Па-першае, якім чынам прадстаўнікі літоўскай спецслужбы праехалі праз пагранічныя пасты — сюды і назад? Ці не бутафорыю мы маем у якасці дзяржаўнай мяжы з Літвой? Па-другое, факты аб дзеяннях літоўскай спецслужбы на нашай тэрыторыі — не першыя. І становіцца зразумелым, што камуністы і іх прыхільнікі вырашылі набыць на гэты раз палітычны капітал.

Зразумела, што Беларусь не мае ўсіх належных атрыбутаў дзяржаўнасці. І кожны з грамадзян будзе мець рацыю, калі выставіць прэтэнзіі і Шушкевічу, і Кебічу. У рэшце рэшт, гэта і было зроблена на закрытым пасяджэнні.

Але ў цяжкіх слоўных баталіях нічога плённага дэпутаты не вырашылі — яны працягнуцца сёння.

Тым часам Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву, што ягоная камісія актыўна працавала і мае што сказаць дэпутатам. Несумненна, атмасфера разагрэецца яшчэ больш.

А што ж войскі, выведзеныя да Тэатра музкамедыі? Пытанне застаецца нявысветленым, бо тлумачэнні камандуючага ўнутранымі войскамі Канстанціна Платонава выклікалі здзіўленне. Быццам бы нехта патэлефанаваў яму і прыгразіў беспарадкамі. Гэта пужаны заяц баіцца куста, а міністрам чаго баяцца? Адстаўкі — дык гэта звычайная з'ява ў нармальных краінах. Навошта зброяй бразгаць?

## "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




### МОСТ У НЕБЫЦЦЁ

***У мінулыя выхадныя ўраган незвычайнай сілы абрушыўся на Нарвегію.***

Адзін чалавек загінуў, сотні засталіся без электрычнасці. У вясковай мясцовасці вецер зрываў з дамоў дахі. Не абышлося без трагедый і на моры. Непадалёк ад Бергена ўраган выкінуў судна на мост паблізу ўзбярэжжа. Людзі выратаваліся дзякуючы абломкам моста, па якіх яны ўскарабкаваліся наверх.

### "МЕКА" ДЛЯ ЎГОНШЧЫКАЎ

***Чарговая спроба ўгону самалёта адбылася ў нядзелю раніцай.***

Самалёт з 43 пасажырамі ляцеў з Дакара, калі ўгоншчык запатрабаваў накіраваць авіялайнер у Рым, але быў затрыманы. Ён аказаўся эфіопцам. Прычыны і акалічнасці злачынства пакуль дакладна не вядомыя. Рым стаў сапраўднай "мекай" для эфіопскіх угоншчыкаў пасля таго, як у 1992 годзе два іх суайчыннікі атрымалі палітычнае прыстанішча ў Італіі.

### ВЫЦІРАЮЦЬ НОГІ... АБ ПРЭЗІДЭНТА

***Як паведаміў нямецкі часопіс "Шпігель", не пашчасціла экс-прэзідэнту ЗША Джорджу Бушу. Цяпер па яго твары зможа прайсціся кожны, хто захоча.***

Перад уваходам у адну з багдадскіх гасцініц кіраўніцтва выклала партрэт Буша з выскаленымі зубамі. Пад партрэтам напісана на арабскай і англійскай мовах: "Буш — злачынец". Такім чынам іракцы паказваюць сваю нянавісць да галоўнага, як яны лічаць, свайго ворага ў апошнія гады. ■

## АФІЦЫЙНА

**Днямі адбылося пасяджэнне Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы. Камісія завяршыла першы этап работы і вынесла на разгляд грамадскасці свае прапановы па зменах у правапісе. Друкуючы вынікі гэтага этапа работы, рэдакцыя "Чырвонай змены" звяртаецца да чытачоў з просьбай даслаць свае заўвагі і меркаванні, якія потым будуць перададзены ў камісію.**

*(Аб рабоце камісіі чытайце на 3-й стар.).*

## Бізнес-клас

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### Весткі з Саюза прадпрымальнікаў Беларусі

Днямі адбылася закрытая кансультатыўная сустрэча Савета беларускай канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў з дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Мэта — давесці да ведама дэпутатаў заклапочанасць вытворцаў і прадпрымальнікаў сённяшнім станам такіх пытанняў, як прыватызацыя і раздзяржаўленне, удасканаленне падатковага заканадаўства, канцэпцыя эканамічнай арыентацыі Рэспублікі Беларусь, праблемы развіцця прадпрымальніцтва.

Прадстаўнікі Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў, Саюза прадпрымальнікаў Беларусі растлумачылі дэпутатам свае задачы, планы, прапановы, накіраваныя на вывад краіны з крызісу, і тым самым дасягнулі сваёй мэты. Дэпутаты пераканаліся ў мэтазгоднасці, дасканаласці прапаноў, асабліва якія датычаць падаткаў. Хочацца верыць, што гэта сустрэча стане яшчэ адным крокам да аздараўлення эканомікі Беларусі.

***

12 лютага адбудзецца Асамблея прыватнага бізнесу, арганізаваная Саюзам прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь і Беларускім фондам фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў, каб абагульніць вопыт прыватнага бізнесу, акумуляваць думкі, прапановы, знайсці новыя шляхі да развіцця прадпрымальніцтва ў рэспубліцы.

### Цэц – на саломе

Пачала працаваць у горадзе Шкелене (Цюрынгія) першая ў Германіі цэц, якая выкарыстоўвае замест традыцыйнага бурага вугалю... салому. Такім чынам, ініцыятары гэтага праекта спадзяюцца значна паменшыць колькасць шкодных выкідаў у атмасферу. Гэты прыклад павінен стаць мадэллю для пераабсталявання ўсходненямецкіх ацяпляльных установак.

### Раз катэдж, два катэдж

Узнікненне на ўскраінах Мінска шматлікіх катэджаў — праяўленне рыначных адносін у рэспубліцы. Напрыканцы 1992 года было каля 3000 участкаў, на якіх былі пабудаваны або закладзены індывідуальныя дамы. Зразумела, што набыць участак у 15—20 сотак і пабудаваць катэдж могуць толькі багатыя людзі. Паводле прагнозаў эканамістаў, у 2000 годзе ў Мінску будзе не менш як 5 працэнтаў сем'яў, якіх магчыма аднесці да багатых. Такім чынам, праз 6—7 гадоў каля беларускай сталіцы з'явіцца гарадок з 25000 асабнякоў.

Але чаму ўсё Мінск? А вось чаму. Як мяркуюць у Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, у студзені мінулага года насельніцтва рэспублікі мела каля 150 мільёнаў даляраў, 100 мільёнаў з якіх асела ў Мінску. Як жа яны размеркаваны. 75 працэнтаў усіх валютных зберажэнняў мае 1 працэнт жыхароў сталіцы, а 80 працэнтаў апошніх не маюць іх увогуле. Цалкам у бягучым годзе ў Мінску будзе каля 60 сем'яў-мільянераў, а да канца стагоддзя — 5000. Трэба зазначыць, што ў 1993 годзе 30 сем'яў-мільянераў валодалі агульным капіталам у 112 мільёнаў даляраў, што больш сумарнага статутнага капіталу ўсіх камерцыйных банкаў рэспублікі.

У бліжэйшы час будзе расці попыт на пабудаваныя "пад ключ" катэджы, і цэны на іх застануцца высокія. Напрыклад, у 1993 годзе асабняк у 400м$^2$ каштаваў ад 65 да 200 тысяч даляраў. Цана залежыць ад размяшчэння будынка, арыгінальнасці праекта, якасці, паслуг сервісу і г.д.

Ва ўмовах развітога рынку да 80 працэнтаў катэджаў будзе куплена за ўласныя капіталы або пабудавана для сябе і за свае. Чвэрць гэтай лічбы — патэнцыяльныя пакупнікі з блізкага і далёкага замежжа. Тым не менш, 20 працэнтаў асабнякоў будуюцца за кошт доўгатэрміновых крэдытаў, атрымаць якія здольны толькі, так бы мовіць, "патрэбныя" людзі. Далібог, што загадала доўга жыць дзяржаўная праграма масавага будаўніцтва катэджаў, бо доўгатэрміновыя крэдыты на яе аплачваліся б за кошт падаткаў, а гэта значыць за кошт усяго (у большасці збяднелага) насельніцтва Беларусі.

Рыначная ж забудова ўскраін Мінска з гэтай прычыны сацыяльна справядлівая: ёсць грошы — купляй. Мясцовым уладам выгадна аддаваць нават сельскагаспадарчыя ўгоддзі пад катэджы. Тыя ж мяркуемыя 25000 багатых сем'яў здолелі б забяспечыць за кошт падаткаў на нерухомасць 400 тысяч пенсіянераў Мінска і Мінскага раёна, выплачваючы такім чынам штомесяц пенсію ў 15 даляраў.

## "ПАС" — палітыка-аналітычная служба

# НАТО зноў прыцягнула ўвагу

□ Аляксандр ЛОЙКА

*НАТО — ваенна-палітычная арганізацыя, якая была створана ў 1949 годзе. Штаб-кватэра блоку знаходзіцца ў Брусэлі (сталіца Бельгіі). У яго ўваходзяць ЗША, Вялікабрытанія, Францыя, Бельгія, Нідэрланды, Люксембург, Канада, Італія, Партугалія, Нарвегія, Данія, Ісландыя, Іспанія, Турцыя, Грэцыя, ФРГ. Найбольшую ролю ў блоку адыгрываюць ЗША.*

Краіны, што ўваходзяць у НАТО, маюць высокі жыццёвы ўзровень, які заснаваны на перавагах рыначнай эканомікі, крыніцы сыравіны і энергіі якой знаходзяцца на Блізкім Усходзе і ў іншых краінах трэцяга свету. Большасць усходнееўрапейскіх краін (Польшча, Венгрыя, Чэхія, Славакія, Румынія, Літва) была б не супраць далучыцца да такой элітарнай сістэмы. Аднак, з эканамічнага пункту гледжання, заходнія краіны не могуць дапусціць такой палёгкі, паколькі рэзка пагоршыцца сітуацыя (і цяпер не самая лепшая) на рынку іх працы, іх тавараў. Для гэтых краін на Захадзе бачаць больш рэальны шлях увязкі рыначных перамен у іх з эвалюцыяй Расіі як звышдзяржавы. Па сутнасці, гаворка ідзе пра выкарыстанне велізарнай крыніцы сыравіны, значнага прамысловага патэнцыялу, рынку.

Вяртанне да таталітарных традыцый у Расіі азначала б вялікую страту для Захаду, паколькі ізноў пачаўся б перыяд "халоднай" вайны, неабмежаваных ваенных затрат. Такім чынам, усходнееўрапейскія краіны разглядаюцца ў НАТО як тая сіла, якая павінна стварыць спрыяльныя геапалітычныя ўмовы для расійскіх рэформ. Аднак Польшча, іншыя краіны Цэнтральнай Еўропы асабліва не разлічваюць на поспех такога раскладу падзей і могуць пад ціскам абставін пайсці на стварэнне рэгіянальнага ваенна-палітычнага саюза. Тады НАТО прыйдзецца мець справу з новым блокам у Еўропе. Натуральна, блок не будзе мець значнай вайсковай сілы, але можа стаць ініцыятарам узнікнення яшчэ аднай Еўропы, якая будзе здольна весці дыялог як з НАТО, так і з Расіяй. А тое, што адзінства такое неабходна, сведчаць падзеі ў Босніі. НАТО на апошняй сесіі фактычна прыняла рашэнне аб нанясенні паветранага ўдару па баснійскіх сербах, што блакіруюць Сараева — сталіцу Босніі.

Як бы ні развіваліся падзеі далей, але зразумела, што НАТО імкнецца захаваць свой элітарны статус, ролю назіральніка адносна розных рэгіёнаў свету. Вось толькі цэласнасць Еўропы пры гэтым не бярэцца пад увагу, паколькі занадта шмат увагі ўдзяляецца геапалітычным капрызам Расіі. У гэтым сэнсе Беларусь — адзіная краіна Еўропы, якая не пайшла насуперак планам Вашынгтона і Масквы. Расія ж для НАТО — і таямніца, і вялікая спакуса кантролю яе сродкамі над значнай тэрыторыяй Еўропы і Азіі.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

### Хатняя медсястра: ці патрэбна яна?

Нядаўна я скончыла курсы хатніх медыцынскіх сясцёр, якія даглядаюць хворых дома, робяць ім працэдуры ў хатніх умовах. Але яны, як бы мовіць, працуюць на грамадскіх пачатках. Было б вельмі нядрэнна, калі б хатняя медсястра атрымала афіцыйны статус. Колькі людзей, па розных абставінах, не могуць сёння лячыцца ў бальніцах, а ім так патрэбен догляд дома. Хатняя медсястра можа зрабіць унутрымышачную ін'екцыю, банкачны масаж, паставіць дзіцяці кампрэсік на вушка ці памераць ціск.

Вядома, курсы не заменяць медыцынскага вучылішча, але, мяркую, што трэба "разгрузіць" нашых прафесійных медсястрычак у некаторым сэнсе. Калі вы, чытачы, зразумелі тое, што я хацела сказаць, калі вам патрэбна будзе медыцынская дапамога дома, — пішыце мне (адрас у рэдакцыі) ці званіце па тэлефонах: 46-48-04 і 64-80-91 вечарам.

Святлана ЧАРНАЯ.

### Бывай, паравоз

Смяяцца, вядома, можа кожны. Здаецца, няма на зямлі чалавека, які б у сваім жыцці не пажартаваў або проста не ўсміхнуўся. Своеасаблівы гумар праявілі нядаўна і працаўнікі Асіповіцкага чыгуначнага вакзала. А пачыналася ўсё зусім звычайна...

З рэпрадуктара аб'явілі, што электрычка, якая ідзе да Мінска, прыбудзе на чацвёрты пуць. Усе пасажыры, як па камандзе, схапілі свае сумкі, чамаданы, рукзакі, самаробныя торбы і рынуліся наперад. Нібы і не было ніякага багажу — як лёгкія пушынкі, якіх ганіць вецер, ляцелі людзі, таячы ў душы адну толькі думку: першым забегчы ў вагон і заняць зручнае месца. Маю ўвагу прыцягнуў голас з рэпрадуктара — заўжды сур'ёзная жанчына гаварыла так разгублена, быццам нешта ўтойвала. А калі наперадзе пачулася лаянка тых, хто быў лідэрам у гэтай гонцы за права першым зайсці ў электрычку, усё стала зразумела. Справа ў тым, што паміж пасажырамі і мінскай электрычкай стаяў доўгі таварны састаў. Як цягнік трапіў сюды, так і засталося загадкай. Можна ўявіць, што зрабілі б у такім выпадку ў цывілізаванай краіне, але наш народ не стаў чакаць, пакуль кіраўніцтва разбярэцца з недарэчнасцю. Навучаныя горкім вопытам і, магчыма, ужо не аднойчы трапляўшыя ў такія сітуацыі, пасажыры ведалі: спадзявацца на што-небудзь дарэмна...

Штурм пачаўся адразу. Праўда, найбольш інтэлігентныя і стрыманыя вырашылі проста абысці таварняк, толькі паспелі яны на электрычку ці не, я не ведаю, бо ж вы знаёмы з даўжынёй нашых таварных саставаў. Астатнія, пажадаўшы ім шчаслівага шляху, марнаваць час не сталі. Людзі з маленькімі дзецьмі пралазілі пад цягнікам, іншыя знайшлі сабе шчыліну паміж счэпленымі вагонамі: сумкі застравалі, нехта не ўтрымаўся і зваліўся, вакол — лаянка, крыкі і страх перад тым, што цягнік вось-вось можа паехаць. Яшчэ адна маленькая непрыемнасць адбылася тады, калі тыя, хто ехаў з Мінска, не паспеўшы выйсці, сутыкнуліся з тымі, хто яшчэ толькі збіраўся наведаць беларускую сталіцу, і палезлі ў вагон, не даўшы ўсім спусціцца. Але як толькі ўзбуджаныя пасажыры занялі свабодныя месцы, эмоцыі адразу сціхлі, і пра гэты маленькі эпізод з вакзальнага жыцця за размовамі аб палітыцы і эканоміцы ніхто так і не ўспомніў. А я ўсё не мог забыць адзін вокліч: "Што ж мы, не людзі?". Не, сапраўды, няўжо нельга было даць пасажырам магчымасць нармальна сесці ў электрычку або проста папрасіць прабачэння за нязручнасць пры пасадцы? Справа не толькі ў хамскіх адносінах, а ў тым, што здараюцца такія выпадкі ўжо надта часта і для нашага грамадства даўно не з'яўляюцца незвычайнымі. Але ж нам таксама паступова трэба прывыкаць да элементарных культурных зносін. Можа ўжо хопіць гэтай абыякавасці і раўнадушша да ўсяго, што адбываецца навокал?

Р.МІЦЮШНІКАЎ.

## ЭКАНОМІКА

# Дзе ж ён, бераг выратавання?

□ Валянцін БАРЫСЕВІЧ,"ЧЗ"

*Развал эканомікі выклікае не толькі катастрафічны спад вытворчасці, ён хваравіта ўплывае і на забеспячэнне людзей прадметамі шырокага ўжытку, паралізуе рух тавараабароту. Вось таму варта пазнаёміцца з пэўным вопытам тых, каму ўдаецца ўсё ж выжыць, быць на плаве ва ўмовах дзікага рынку.*

Мінскаму вытворчаму абутковаму аб'яднанню "Прамень", канешне, да працвітання далёка, паколькі львіную долю прыбытку з'ядаюць празмерна высокія падаткі. На 50-60 працэнтаў павялічыліся апошнім часам цэны на сыравіну. Але і ў гэтай складанай эканамічнай сітуацыі тут не апусцілі рукі, не палі духам. Кінутыя на волю лёсу, не маючы пабочнай фінансавай падтрымкі, яны ўсё ж адшукваюць грашовыя сродкі і закупляюць сучаснае абсталяванне, паляпшаюць якасць абутку, расшыраюць яго асартымент. А ў канчатковым выніку ўсё гэта з'яўляецца нядрэннай процівагай унутранаму рынку, з яго няўстойлівай кан'юнктурай, высокай камерцыйнай рызыкай у абставінах эканамічнага хаосу і нястрымнай інфляцыі.

Згадзіцеся, вельмі спакуслiва па-простаму перапрадаваць закупляемы оптам і ў розніцу ў магазінах Дзяржгандлю абутак, некаторыя мадэлі якога на сёння не ўступаюць імпартным узорам. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова пабыць на тым жа стадыёне "Дынама" ў гадзіны, адведзеныя для дзікага кірмашу. Кошт на жаночыя боцікі, выробленыя на абутковым аб'яднанні, тут у некалькі разоў перавышае стартавы. Перакупшчыкі розных масцей сёння за дзень кладуць у кішэню "кускі" і "лімоны". Аднак не толькі яны ўзвінчваюць цану на той жа абутак да завоблачных вышынь, шкодзячы таваравытворцам і насельніцтву. На павелічэнні цэн наварыстую юшку маюць і прадстаўнікі дзяржаўнага гандлю.

— Ці ж гэта справядліва? — абуралася пад час гутаркі намеснік старшыні прафкама аб'яднання "Прамень" Маргарыта Уладзіміраўна Козіч. — Мы затрачваем энергарэсурсы, сыравіну, вырабам тых жа жаночых боцікаў заняты не адзін чалавек, а атрымліваем усяго дваццаць працэнтаў прагрэсіўкі. А ў гэты час, у прыватнасці, работнікі таго ж магазіна № 5, што па вуліцы Маскоўскай нашай сталіцы, нават пальцам не паварушыўшы, хіба толькі аплаціўшы за кіламетр транспартных выдаткаў, павялічваюць кошт на сто працэнтаў, і атрымліваюць у выніку за продаж нашага тавару сто працэнтаў прагрэсіўкі.

Не пагадзіцца з Маргарытай Уладзіміраўнай нельга. Сапраўды, у цану тавару можна "схаваць" усё, што хочаш, аж да абсалютнага разгільдзяйства, і тут жа атрымаць прыбытак і не менш "крутую" зарплату. А тое, што той жа селянін з далёкай правінцыі, які гадуе свіней, кароў і з'яўляецца адзіным пастаўшчыком сыравіны для гарбарных прадпрыемстваў, за свой жабрацкі заробак не можа купіць чаравікі сыну ці дачцэ, іх менш за ўсё хвалюе. Маўляў, пацерпяць! Толькі, відаць, памыляюцца тыя, хто гэтак думае. Пагалоўе як свіней, так і буйной рагатай жывёлы ў рэспубліцы катастрафічна скарачаецца. Калі так будзе прадаўжацца і ў далейшым, то хутка, бадай, давядзецца асвойваць даўнюю саматужную прафесію — плесці лапці з лыка.

Яскравае сведчанне таго, што вытворчасць скарачаецца, — наступныя лічбы і факты. Калі да перабудовы тут шылі дванаццаць мільёнаў пар абутку ў год, то цяпер усяго — восем. Многія цэхі з-за недахопу сыравіны тыднямі прастойваюць, у тым ліку і гарбарныя заводы ў Гатава, Бабруйску, фабрыкі, якія ўваходзяць у склад аб'яднання ў Маладзечна, Пухавічах, Уздзе. У апошніх (правінцыяльных гарадах) зрывы адбываюцца, як тлумачыў майстар Вадзім Іванавіч Сямёнаў, яшчэ з-за адключэння ў мэтах эканоміі ў пэўныя прамежкі часу электраэнергіі.

— Разбурылі вытворчасць, канечне, моцна, — падкрэсліла Тацццяна Дзмітрыеўна Тыталь, вопытная рабочая, якая працуе ў аб'яднанні з 1957 года. — Мяркую аб гэтым з вышыні пражытых гадоў. Памятаю, амаль сорак гадоў назад мы выраблялі за змену 760 пар абутку, а сёння іншы раз і гэтай лічбы не дасягаем. Відаць, цяперашнія дэмчыноўнікі мяркуюць так: ачуняе аб'яднанне — добра, а калі не — не бяда...

Гэтак ці не так думаюць пра спад вытворчасці ў вышэйшых эшалонах улады — меркаваць не буду. Зрэшты, не чакае каля мора пагоды і генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання "Прамень" Вячаслаў Браніслававіч Вернікоўскі. Усведамляючы тое, што на прадпрыемствах аб'яднання вырабляецца да трыццаці працэнтаў беларускага абутку, ён шукаў выйсце са становішча. І яно было знойдзена.

Недарэмна ж кажуць, лепшы спосаб навучыць чалавека плаваць — кінуць яго ў рэчку. Паплёскаецца і — паплыве. Некаторыя асцерагаюцца: а раптам патоне? Трэба ўсё ж спачатку навучыць, а пасля ўжо кідаць. Перабудова якраз не вучыла нікога плаваць. Кінула ў бурлівае мора дзікага рынку прадпрыемствы і самаўхілілася. Некаторыя патанулі адразу, іншыя — з цягам часу, апошнія, шукаючы паратунку ў новых эканамічных умовах, адшукалі бераг выратавання ў наладжванні дзелавых сувязяў з Захадам. Вось і аб'яднанне "Прамень" за кошт экспарту неўзабаве перайшло на валютную самаакупнасць.

Дырэктар аб'яднання, здаецца, быў адным з першых, хто даплыў да таго выратавальнага берага, зразумеў, што правільна арганізаваць вытворчасць — гэта значыць стварыць спрыяльныя ўмовы для рабочых, павялічыць пакупніцкую здольнасць вырабаў. Менавіта з гэтай мэтай і былі заключаны кантракты з Італіяй на пастаўку камплектуючых, абсталявання. А дзякуючы экспарту боцікаў у Канаду, Італію, Германію, Англію прадпрыемства неўзабаве атрымала магчымасць набываць хімічныя матэрыялы для вырабу поліўрэтану, высакаякасны клей, новыя тэхналогіі і запчасткі для абсталявання. І вось "Прамень" ужо на працягу пяці гадоў займае адно з вядучых месцаў сярод абутковых прадпрыемстваў СНД па якасці і попыту на прадукцыю.

Аднак жыццё ўносіць свае карэктывы. Сёння перад кіраўніцтвам аб'яднання паўстаюць усё новыя задачы: зберагчы калектыў, традыцыйныя гаспадарчыя сувязі, пашырыць кантакты з фірмамі, каб на кампенсацыйнай аснове цалкам аднавіць вытворчасць і, вядома ж, развіваць сацыяльна-бытавую сферу, пашыраць сетку фірменных магазінаў, каб абараніць інтарэсы калектыву, прадаваць абутак без пасрэднікаў і тым самым задаволіць попыт насельніцтва ў больш танным тавары. Карацей кажучы, праблем больш чым дастаткова.

Канешне, з такім калектывам, а працуе ў аб'яднанні каля 7 тысяч чалавек, сярэдні ўзрост — 32 гады, можна горы перавярнуць. Але ж жыццё штодзень уносіць свае карэктывы, часам не залежачыя ад тых жа Лідзіі Васільеўны Цяшкевіч — начальніка 3-га цэха, нарыхтоўшчыцы верху абутку, маладых працаўніц Алы Гарнашэвіч, зборшчыцы дэталяў Любові Алексіевіч, ветэранаў аб'яднання Марыі Мітрафанаўны Ікланoвіч, Надзеі Міхайлаўны Зарэмба, Арыны Уладзіміраўны Паповай і Любові Міхайлаўны Смолік. Наша эканамічная навука па-ранейшаму развіваецца "з аглядкай на Маскву": крок управа, крок улева разглядаецца як спроба ўцёку... Ці не адсюль і ўсе беды: рост беспрацоўя, інфляцыя, збядненне насельніцтва?

Вось і варацца калектывы, як кажуць, у сваім саку. Канешне, дырэктар аб'яднання "Прамень" Вячаслаў Браніслававіч Вернікоўскі не можа абяцаць таго, што заўтра ўсе рабочыя прачнуцца багатымі, але тое, што яны ніколі не будуць забытымі — гэта дакладна. Праўда, сярод некаторых ветэранаў існуе няўпэўненасць у заўтрашнім дні. Калі я пацікавіўся ў майстра Вадзіма Іванавіча Сямёнава, як расцэньвае ён палітыку ўрада па ўваходу ў адзіную рублёвую зону, той, доўга не задумваючыся, адказаў: "Адмоўна. У Расіі ёсць нямала мільянераў, якія такое аб'яднанне, як наша, могуць выкупіць разам з усімі трыбухамі, а людзей — на вуліцу".

Што ж, прыклад з Расіяй, дзе львінай доляй сродкаў вытворчасці сапраўды па-ранейшаму распараджаецца адміністрацыйна-камандная сістэма, павучальны. Там простыя людзі — вытворцы — не могуць выйсці на рынак. Скупіўшы ваўчары, а праз іх — сродкі вытворчасці, былыя адміністратары скупляюць ужо рабочыя рукі.

На большасці абутковых прадпрыемстваў, дзе мне даводзілася пабываць, у тым ліку на гродзенскай фабрыцы "Нёман", рабочыя, ІТР схільныя да арганізацыі закрытых акцыянерных таварыстваў вытворцаў, дзе ўвесь прыбытак у канцы года размяркоўваўся б самімі акцыянерамі-вытворцамі. Але жыццё паказвае, што ўсе "рэформы" ў рэспубліцы накіраваны хутчэй толькі на эканамічную і палітычную свабоду адміністратараў і яшчэ большае зняволенне працаўнікоў: рабочых, служачых і сялян. Усё, што перашкаджае гэтай галоўнай мэце "рэформ", супярэчыць інтарэсам новай дзяржбюракратыі і наваяўных нуварышаў, — адмятаецца.

А, між тым, варта б пераняць вопыт у тых жа амерыканцаў, дзе ўрад выкупляе прадпрыемствы ў капіталіста і перадае іх у крэдыт працоўным калектывам. У прыватнасці, на сёння там каля 30 мільёнаў вытворцаў маюць акцыі з правам голасу на сваім прадпрыемстве. Працоўныя калектывы там, за акіянам, актыўна ўдзельнічаюць у кіраванні вытворчасцю, кантралююць прыбыткі і расходы прадпрыемства. У выніку народныя фабрыкі, заводы паспяхова канкурыруюць на рынку з прадпрыемствамі, дзе ўсе служачыя і рабочыя з'яўляюцца наёмнікамі. Ды й прадукцыйнасць працы на гэткіх заводах, фабрыках на 50 працэнтаў вышэйшая, чым на капіталістычных.

Вось таму, на мой погляд, бераг выратавання для нашай эканомікі — у стварэнні менавіта народных прадпрыемстваў, закрытых акцыянерных таварыстваў вытворцаў. Зрэшты гэтую ідэю падтрымліваюць большасць рабочых, у тым ліку і на вытворчым аб'яднанні "Прамень". Калі мы ўжо ўзяліся будаваць рыначную эканоміку, дык няхай людзі будуць свабоднымі вытворцамі, гаспадарамі сваіх прылад працы і свайго прыбытку. Толькі тады на паліцах нашых магазінаў з'явіцца больш таннага і якаснага абутку з маркай "Нёман", "Прамень", "БелВест".

А пакуль... Пакуль адміністрацыя мінскага вытворчага аб'яднання "Прамень" умацоўвае сувязі з краінамі далёкага замежжа. Так, сумесна з Бабруйскім гарбарным камбінатам і прэзідэнтам германскай фірмы "Сан-Манга" заснавана сумеснае прадпрыемства, дзе будзе вырабляцца мужчынскі і жаночы абутак на экспарт і для рэалізацыі на тэрыторыях рэспублікі, краін блізкага замежжа. Вядуцца перамовы з Турцыяй аб стварэнні прадпрыемства па пашыву спартыўнага абутку.

Што ж, жыццё ідзе.

...Пад шэрым зімовым небам цёмная вуліца з сярэдневяковай назвай — Няміга. Спускаюся па каменных прыступках ад праходной. І вось ужо за плячыма, нібыта ветразь, адміністрацыйны будынак. Адсюль, з пагорка ад вуліцы Валадарскага, тэрыторыя прадпрыемства бачыцца мне караблём з ветразем. Сёлета, улетку, аб'яднанне будзе святкаваць сваё 70-годдзе. Да якога ж берага, да якой прыстані прычаліць карабель з 7000 весляроў і яго капітанам Вячаславам Браніслававічам Вернікоўскім, — пакажа час.

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

### За праезд –валюту!

*Дэпутаты ДУБРОВЕНСКАГА райсавета даручылі выканаўчай уладзе распрацаваць палажэнне аб аплаце за транзітны праезд па тэрыторыі раёна. Брацца яна будзе ў свабодна канверсуемай валюце.*

Доўгія чэргі на граніцы з Расіяй і значны паток аўтамабіляў на трасе Мінск—Масква патрабуюць вялікіх фінансавых укладанняў для ўтрымання дарог. Менавіта на гэтыя мэты і пойдуць "зялёныя".

БЕЛІНФАРМ.

### Немцы думаюць пра Беларусь

*ХОЙНІКІ. Жыхары горада і раёна ўжо добра ведаюць нямецкіх сяброў з горада Ламара зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія.*

Як паведаміў старшыня Фонду міру Беларусі М.Ф.Ягораў, з Германіі для патрэб раёна ўжо атрыманы два транспарты з гуманітарнай дапамогай: медыкаментамі, медыцынскім абсталяваннем, харчовымі прадуктамі. А нядаўна бацькоўскі камітэт "Дапамога дзецям Чарнобыля" з Ламара выступіў з прапановай пачаць збор сродкаў на куплю двух аўтобусаў для Хойнікаў і знайсці спонсараў для будаўніцтва ў райцэнтры станцыі тэхнічнага абслугоўвання. Гэта выклікана тым, што дэлегацыя бацькоўскага камітэта на чале з баранесай Развітай Фон Каркап, якая пабывала ў Хойніках, пераканалася, што ў палескай глыбінцы вельмі востра адчуваецца недахоп транспарту і бачны дрэнныя зносіны райцэнтра з аддаленымі вёскамі. Для абмеркавання пытанняў вышэйпамянёнай дапамогі ў канцы студзеня Хойнікі чакаюць прыезду яшчэ адной нямецкай дэлегацыі.

А.СЦЯПАНАЎ.

### У "Батлейцы" – прэм'ера

*Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка", якім кіруе Сяргей Фёдаравіч Юркевіч, можна назваць сапраўдным асяродкам беларускасці, цэнтрам беларускай культуры ў Маладзечна.*

Кожны спектакль, пастаўлены тут, адразу робіцца значнай падзеяй у культурным жыцці горада. Вось і паэтычная казка Валянціна Лукшы "Чароўны камень", прэм'ера якой нядаўна адбылася, стала такой падзеяй, бо мяркуючы па рэакцыі дзяцей, што сабраліся ў зале, спектакль ім вельмі спадабаўся. Гэта — не першая творчая ўдача маладога рэжысёра. І, трэба спадзявацца, не апошняя.

### Хрысціяне пра секс...

*У Жлобіне прайшла аднаццатая рэспубліканская канферэнцыя па праблемах евангелізацыі нашага грамадства.*

Абмеркаваць набалелыя праблемы ў горад на Дняпры з'ехаліся пастары і члены хрысціян веры евангельскай з Мінска, Гомеля, Пінска, Рэчыцы, Мазыра, Жыткавічаў, многіх іншых мясцін Беларусі. Расію прадстаўляла абшчына хрысціян-евангелістаў з Геленджыка.

"Роля і месца пастара ў дзейнасці абшчыны", "Значэнне малітвы ў жыцці веруючага", "Моладзь і секс" — так гучалі асноўныя тэмы канферэнцыі.

Мікалай ШУКАНАЎ.

### Дзе тэатральная сталіца?

*Пра стварэнне ў Наваполацку тэатра-студыі "Зніч" чулі ўжо многія. А чым жыве тэатр сёння?*

Калі не лічыць сольных канцэртаў зорак полацкага рэгіёна дома і на выездзе, дык галоўнай прыкметай цяперашняга "знічаўскага" жыцця з'яўляецца падрыхтоўка прэм'еры арыгінальнага "афіцэрскага канцэрта" — музычнага спектакля, дзе неверагодная дзея адбываецца на мяжы Беларусі з Польшчай дзесьці ў 1919-20 гадах.

Спектакль мае назву "Эміграцыя, альбо Гульня на звонкі". Яго прэм'ера плануецца прыкладна напрыканцы студзеня або ў пачатку лютага. Удзел прымуць такія папулярныя выканаўцы, як Ален, Аніса, Таццяна Макарава, Сяргей Казлоў.

Бадай, Наваполацк хутка сапраўды стане сталіцай нацыянальнага маладзёжнага тэатральнага жыцця. Прынамсі сёння на імпрэзы тэатра-студыі "Зніч", які яшчэ мала гастралюе, ездзяць ужо і з Віцебска, і з Мінска, і з іншых мясцін Беларусі.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА, "ЧЗ-інфарм"

## БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

# Асімілёўвалі гвалтам. А як адрадзіцца?

(Пачатак у № 7,8)

### 3.Адраджэнню – дзяржаўную падтрымку

Сёння нам патрэбны не рэферэндумы, плебісцыты, выбарачныя сацыялагічныя даследаванні, а навукова абгрунтаваная дзяржаўная палітыка ў галіне мовы. І калі дзяржаўныя органы ўлады і кіравання ледзь не на ўсе сто працэнтаў правялі культурна-моўную асіміляцыю беларускага народа, цяпер жа святы абавязак такіх органаў вярнуць яго да сапраўднага нацыянальнага жыцця, што магчыма толькі праз поўнае гарантаванне беларускай мове статуса адзіна дзяржаўнай на яе гістарычнай тэрыторыі. Не будзем забывацца, што ўсе нашы нацыянальныя беды пачыналіся з занядбання роднай мовы, пагарджання ёю. За рэдкім выключэннем мы ўвесь час былі вельмі дрэннымі вучнямі свайго выдатнага настаўніка Францішка Скарыны, які па-прарочы папярэджваў: "Не многим учителем бывати, но более умети язык свой справовати, от него же все злые и добрые речи походят". Дык давайце ж хоць цяпер так "справовати" сваю родную мову, каб ад гэтага мець толькі "добрые речи".

Радуе, што сям-там усё ж пачалі так "справовати", да чаго нас абавязвае Закон аб мовах. Яго прыняцце — гэта вялікая перамога і адначасова не меншая трагедыя. Трагедыя таму, што дзеля выратавання беларускай мовы на яе ж уласнай гістарычнай тэрыторыі не знайшлося іншага дзейснага сродку, акрамя спецыяльнага нарматыўнага акта. Такія акты ў нас больш лагічна было б уводзіць у дачыненні да рускай, польскай, украінскай, яўрэйскай ці іншых моваў, гістарычныя тэрыторыі якіх ляжаць па-за межамі Беларусі. У Расіі ж, Польшчы, Германіі, Італіі альбо іншых суверэнных краінах не існуе падстаў для прыняцця законаў аб ахове дзяржаўных моваў, іх карэннага насельніцтва. І не існуе таму, што там нацыянальна-культурнае развіццё яго адбываецца ў нармальным рэчышчы, без усялякіх дэфармацый.

Бадай, не было ў нашай гісторыі выпадку, як з Законам аб мовах, каб такая заўзятая барацьба — адкрытая і патаемная — вялася з ужо прынятым дзяржаўным заканадаўчым актам, прычым нават і з боку саміх народных дэпутатаў, у тым ліку і рэспубліканскага ўзроўню. Дзеля справядлівасці адзначу, што розныя формы ігнаравання беларускай мовы, асабліва ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, мелі месца яшчэ на самым пачатку сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Але найбольш актывізаваліся яны ў гэтым напрамку пасля прыняцця Закона аб мовах, на што проста не маглі не звярнуць увагі ўдзельнікі II з'езда рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, які праходзіў у чэрвені 1991 года. Вось якую ацэнку далі яны пазіцыі сродкаў масавай інфармацыі ў сваім Звароце да грамадзян Беларусі: "Вельмі слаба асвятляе чарговую "беларусізацыю" на сваіх старонках рэспубліканскі друк. Мала таго, у некаторых выданнях з'явіліся зневажальныя публікацыі ў адносінах да нашай мовы, дзеячаў беларускай культуры, пісьменнікаў. Ні ў адной краіне народ не дазволіў бы, каб так ахайваліся яго святыні, лепшыя прадстаўнікі нацыі. Гэта толькі цярплівыя беларусы могуць зносіць такое. Але далей так жыць нельга!"

Не пагаджаюся толькі з апошнім сказам цытаты, бо практыка паказала, што беларусы так жыць могуць. Пасля ўпамянутага з'езда ТБМ дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі былі яшчэ больш агрэсіўнымі, вялі яшчэ больш вытанчаную барацьбу з беларусізацыяй і яе асноўным кампанентам — мовай, а беларусы ўсё ж неяк жывуць і, напэўна, надалей будуць жыць, трываючы любое стаўленне да іх праціўнікаў беларускай нацыянальнай ідэі, якія так бязлітасна злоўжываюць цярплівасцю яе носьбітаў. Такімі, відаць, само жыццё зрабіла нас. Нездарма нядаўна паэт Алесь Звонак пісаў пра нашага брата, што ён "дабрынёй сваёй грашыць чуток!"

Дабрыня, талерантнасць, памяркоўнасць — усё гэта вельмі станоўчыя якасці чалавека, але толькі не для любых сітуацый. Быць добрым, талерантным, памяркоўным з тымі, хто прапаноўвае нам ідэю дзяржаўнага двухмоўя, якая немінуча прывядзе да рускага аднамоўя, — гэта значыць капаць дол, калі не сённяшнім, дык заўтрашнім пакаленням беларусаў. Таму лепш пакінем вышэйадзначаныя якасці беларускага народа для іншых сітуацый, а што датычыць увядзення афіцыйнага двухмоўя, дадзім яму сапраўдны бой, зразумела, не рукапашны і кровапралітны. Будзем ваяваць з гэтай пачварнай з'явай цывілізаванымі метадамі і асабліва дружна выступім у абарону роднага слова, калі нам усё ж навяжуць рэферэндум па дадзенаму пытанню. Не паддавайся, дарагі народзе, на кручок, што дзяржаўнае двухмоўе не пагражае тваёй роднай мове. Такога іспыту не вытрымае ніводная нацыя. Каб такое было магчымым, на падобны шлях ужо даўно сталі б многія народы. Яны ж не ідуць на падобны варыянт з-за боязі страціць родную мову. Няцяжка ўявіць, што сталася б з рускай мовай, калі б на велізарнай прасторы Расійскай Федэрацыі статус дзяржаўнай надалі яшчэ і англійскай, ці каб у Польшчы ў такі ж ранг узвялі французскую мову.

Кожная незалежная дзяржава канстытуцыйна абараняе сваю мову ад непатрэбнай і заўсёды вельмі небяспечнай канкурэнцыі з боку іншых моваў і не лічыць нават лішнім прыняць шэраг адпаведных нарматыўных актаў з мэтай забеспячэння нармальнага функцыяніравання першай. І тут усё лагічна: дзяржава сваім нараджэннем абавязана нацыі, таму і клапоціцца пра яе лёс. Штосьці робіцца і ў нас: у ліпені 1990 года беларуская нацыя сваёй сімвалічнай дзяржаве БССР надала статус дзяржаўнага суверэнітэту, а ў жніўні 1991 года абвясціла сваю дзяржаву Рэспублікай Беларусь. На зямлі беларусаў утварылася зусім новая нацыянальна-дзяржаўнае фарміраванне, незалежнае ад іншых краін. Цяпер, калі існуе суверэнная беларуская дзяржава, яна павінна ў першую чаргу дбаць пра нацыю, якая дала ёй пуцёўку ў жыццё. Усё ж тое, што пярэчыць нацыянальнаму інтарэсу беларускага народа, да прыкладу, увядзення афіцыйнага двухмоўя, павінна рашуча адхіляцца дзяржавай, калі яна на справе, а не толькі на словах лічыць сябе беларускай.

Досыць! У Беларусі ўжо былі спробы ў 20-я гады здзівіць, калі не свет, дык хаця б Еўропу, сваёй талерантнасцю ў моўнай палітыцы. Пад час добра вядомай беларусізацыі была прынята пастанова, згодна з якой дзяржаўнымі мовамі на тэрыторыі рэспублікі аб'яўляліся беларуская, руская, яўрэйская і польская. Нерэальнасць такой палітыкі вельмі хутка высветлілася. Дзве апошнія, калі не лічыць іх ужывання ў друку, шэрагу навучальных устаноў, на сапраўдны статус дзяржаўных так і не выйшлі, хаця ніхто не перашкаджаў ім у гэтым. Вельмі хутка абвостраны характар набыла канкурэнцыя за права быць галоўнай, вядучай паміж беларускай і рускай мовамі, паколькі на баку апошняй заўсёды было шмат абаронцаў у высокіх звёнах партыйнага і дзяржаўнага апаратаў рэспублікі. Яны і пастараліся зрабіць усё так, каб пад канец 30-х гадоў пазіцыі рускай мовы ў дзяржаўна-палітычным і грамадскім жыцці, у працы сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў былі больш трывалымі, чым у беларускай на яе этнічнай тэрыторыі. Такія з'явы, толькі ў менш абвостранай форме, назіраліся і ў іншых нацыянальных рэспубліках СССР, у прыватнасці і на Украіне. Таму, што б сёння ні гаварылася на карысць дзяржаўнага беларуска-рускага двухмоўя, — гэта ўсяго толькі пераходны перыяд да рускага аднамоўя. Спадзявацца, што ў такой сітуацыі стыхійна пераможа наша родная беларуская мова, вельмі мала надзей, улічваючы яе сапраўдны статус у найважнейшых сферах дзяржаўна-палітычнага жыцця, навучальна-выхаваўчым працэсе школ, тэхнікумаў і інстытутаў, у зносінах паміж людзьмі. Адзіназаконнай, натуральнай на сваёй гістарычнай Бацькаўшчыне беларускай мове патрэбна дзяржаўная падтрымка, і ўсялякія спробы надаць статус афіцыйнай яшчэ якой-небудзь мове павінны разглядацца як парушэнні нормаў цывілізаванага нацыянальнага развіцця суверэннай краіны. Прынцып стыхійнасці ў вырашэнні нацыянальна-моўнага пытання нясе для нас вялікую пагрозу. Як раней з дапамогай прадуманай да дробязі дзяржаўнай палітыкі ўводзілася ў жыццё беларусаў руская мова, такім жа метадам цяпер ад яе трэба вызваляцца. Адзінае, чаго не запазычваць з былой практыкі, — гэта гвалту і прымусу. Народ трэба настойліва пераконваць, спасылаючыся на станоўчы вопыт Расіі, Польшчы, Літвы, Латвіі і іншых краін, якія праз дзяржаўнае аднамоўе забяспечваюць сабе нармальнае культурнае развіццё. Кожны беларус павінен ведаць як свае пяць пальцаў, што без роднай мовы ён труп, аморфная маса, якая не ўяўляе аніякай каштоўнасці для цывілізаванага свету.

Леанід ЛЫЧ, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, доктар гістарычных навук.

